# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Намеснік галоўнага рэдактара
Усевалад Рагойша
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 34.650
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 29 ліпеня 1997 г. № 81 Кошт свабодны


## Вялікае свята – дробныя гадасці ўладаў



Каля 5 тысяч чалавек узяло ўдзел у шэсці і мітынгу з нагоды Дня незалежнасці, праведзеных 27 ліпеня ў Мінску апазіцыйнымі сіламі.

Святочны дзень пачаўся з вобыску ў штаб-кватэры Народнага фронту. У 12 гадзін некалькі міліцыянтаў заявіліся ў фронтаўскі офіс і, прад'явіўшы санкцыю гарадскога пракурора, пачалі шукаць нейкія *«прадметы, якія могуць быць выкарыстаныя дэманстрантамі ў якасці халоднай зброі»*. Паколькі нічога падобнага ў штаб-кватэры БНФ знайсці не ўдалося, ахоўнікі парадку задаволіліся чатырма канфіскаванымі транспарантамі і некалькімі дрэўкамі да сцягоў.

Удзельнікі святкавання сабраліся а 14-ай гадзіне на плошчы Я.Коласа і прыкладна праз 15–20 хвілін калона выйшла на праспект Скарыны і рушыла ў бок плошчы Перамогі. Як мы ўжо інфармавалі, гарвыканкам спачатку дазволіў, а потым забараніў шэсце па праезнай часцы праспекта. І хаця з дынамікаў міліцэйскіх машынаў неслася *«грамадзяне, не парушайце грамадскі парадак!»*, дэманстранты мелі цвёрды намер прайсціся менавіта па цэнтры дарогі.

Нягледзячы на то, што лета — пара адпачынкаў, адсвяткаваць 7-ю гадавіну незалежнасці Беларусі прыйшло не менш як 5 тысяч чалавек, і святочная калона расцягнулася па праспекце на цэлы кіламетр. Сярод удзельнікаў было нямала дэлегатаў ІІ з'езда беларусаў свету, што якраз праходзіў у Мінску. Дасягнуўшы плошчы Перамогі, дэманстранты звярнулі на набярэжную Свіслачы і накіраваліся да Опернага тэатра, дзе гарадскія ўлады дазволілі апазіцыі правесці мітынг і канцэрт.

Ніякіх канфліктаў паміж маніфестантамі і міліцыяй на гэты раз не назіралася, тіолькі група радыкальна настроенай моладзі ў знак пратэсту супраць палітыкі расійскага кіраўніцтва спаліла дзяржаўны сцяг гэтай краіны. Міліцыянты засталіся абыякавымі і ніяк не адрэагавалі.

Сюрпрыз чакаў людзей каля Опернага. У тэатры чамусьці раптоўна адключылася электраэнергія, і арганізатары былі вымушаныя праводзіць мітынг, выкарыстоўваючы звычайны мегафон. З гэтай жа прычыны давялося адмяніць і рок-канцэрт. Моладзь так і не пачула песень «Крамы» і «Новага неба», а мастацкая частка святкавання была абмежаваная выступленнем аршанскага барда Андрэя Мельнікава. Дарэчы, днём раней ўлады забаранілі падобны канцэрт у Гродне.

Каля Опернага тэатра перад народам выступілі Станіслаў Шушкевіч, Вінцук Вячорка, Стніслаў Багданкевіч і іншыя лідэры апазіцыі. Як бы Лукашэнка ні спрабаваў выкараніць з памяці людзей паняцце незалежнасць, гэты дзень будзе святам нашай дзяржавы і яму яшчэ будзе вернуты афіцыйны статус, — гаварылі прамоўцы. Людзі цёпла сустрэлі выступ толькі што выпушчанага з турмы ўкраінца Андрэя Шаптыцкага, які быў асуджаны за ўдзел у «Чарнобыльскім шляху-96».

*(Працяг на стар. 2)*

## Лукашэнка едзе лавіць залатую рыбку

**Прэзідэнт Лукашэнка працягвае асваенне расійскай правінцыі. У пятніцу, 1 жніўня, ён накіроўваецца ў Калінінград.**

Кіраўнік адміністрацыі гэтай расійскай вобласці Юрый Матачкін наведаў Мінск у сакавіку мінулага года. Абмяркоўваўся праект будаўніцтва транспартнага калідора з Гродна да Калінінградскай вобласці (ідэя ўжо сышла ў нябыт), а таксама магчымасць выкарыстання калінінградскага порта для беларускіх грузаў. Тады Ю.Матачкіна асабліва ўразілі цэны на рыбу ў мінскіх крамах. З таго часу гэты прадукт яшчэ падаражэў і стаў практычна недаступным для беларускіх пакупнікоў. У спажывецкім кошыку жыхара нашай краіны рыба займае ўсяго 6%.

Візіт у адказ, які прэзідэнт Лукашэнка расцягне на два дні, прадугледжвае новую спробу прабіць акно да мора. На адным з рыбалавецкіх суднаў, якое насіла ўзбекскую назву «Каканд», у прысутнасці прэзідэнта плануецца падняць лукашэнкаўскі і расійскі сцяг. Належаць карабель будзе дзяржаўнай беларуска-расійскай кампаніі, якая павінна здабываць рыбу ў Балтыйскім моры, а перапрацоўваць і рэалізоўваць яе ў Мінску.

Усяго Беларусь плануе займець у калінінградскім порце чатыры прамысловыя судны. Спецыялісты рыбнай галіны лічаць, што гэта больш падобна на авантуру, бо нашай краіне прасцей купіць рыбу, чым утрымліваць уласны флот: такая рыбка па коштах можа аказацца сапраўды залатая. Акрамя таго, пытанне неабходна ўрэгуляваць на міжнародным узроўні, каб Беларусь атрымала сваю зону для промыслу ў сусветным акіяне.

Акрамя рыбнага пытання, як паведамілі ў прэзідэнцкай прэс-службе, плануюцца сустрэчы з працоўнымі калектывамі Калінінграда, з кіраўніцтвам вобласці. Спецыяльна для прэзідэнта Лукашэнкі зарэзерваванае памяшканне Калінінградскага драматычнага тэатра. У наступленні на Крэмль калінінградская аўдыторыя будзе чарговай рыбкай, якую паспрабуе злавіць прэзідэнт Лукашэнка.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Аварыя на нафтаправодзе

**Чарговая труба трэснула ў Беларусі.**

23 ліпеня ў Акцябрскім раёне Гомельскай вобласці на ўчастку нафтаправода Любань—Віша, які належыць нафтагазаздабываючаму ўпраўленню «Рэчыцанафга», за тры кіламетры ад населенага пункта Міконь-Гарадок разарвалася труба дыяметрам 273 міліметры. Вылілася больш за 60 кубаметраў нафты.

Для ліквідацыі наступстваў аварыі ў Акцябрскім райвыканкаме створана спецыяльная камісія. На думку спецыялістаў, работы зоймуць 15 сутак.

*БелаПАН*

## На з'ездзе беларусаў не было пажару

**Правядзенне ІІ з'езда беларусаў свету было пад пагрозай. Улады раптам схамянуліся, што зала Тэатра музычнай камедыі «не адпавядае правілам пажарнай бяспекі». Аднак пасля працяглых перамоваў арганізатараў з палкоўнікам Замяталіным усё ж было дазволена правесці з'езд у Тэатры, дзе ён і адбыўся 26—27 ліпеня.**

У працы з'езда, як падлічыла мандатная камісія, узялі ўдзел 184 дэлегаты і больш за 600 гасцей з Беларусі, усходняй і заходняй дыяспараў. Нягледзячы на тое, што некаторыя арганізацыі беларусаў замежжа (у прыватнасці, ЗША, Вялікабрытаніі, Канады) не прыслалі афіцыйных дэлегацыяў, з'езд атрымаўся прадстаўнічы і паўнамоцны. Прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» ізноў абраны акадэмік Радзім Гарэцкі, старшынёй Рады ЗБС — Ганна Сурмач. У склад Рады ўвайшлі таксама такія вядомыя людзі, як Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Пётр Краўчанка, Юры Хадыка, Станіслаў Шушкевіч.

Па словах многіх удзельнікаў, яны адчувалі сябе абражанымі. Гэта праявілася не толькі ў тым, што афіцыйныя ўлады амаль што праігнаравалі з'езд: беларускую дзяржаву прадстаўлялі толькі чыноўнікі ў рангу да намесніка міністра. Ліст Лукашэнкі, які зачытаў намеснік міністра культуры У.Рылатка, быў фактычна не зваротам да ўдзельнікаў з'езду, а абстрактным «адказам беларусам замежжа», прычым у тэксце ўтрымлівалася звычайная прэзідэнцкая лухта наконт раўнапраўнага становішча беларускай мовы і ўзмацнення пазіцый Беларусі на міжнароднай арэне.

Не дзіўна, што выступ У.Рылаткі перапыняўся воклічамі абурэння і свістам. Магчыма, пачуцці выказваліся залішне экспрэсіўна — на чым не забылася зрабіць спекуляцыю Беларускае тэлебачанне ў рэпартажы са з'езда, назваўшы ўдзельнікаў *«купленымі»*. Вядомы навукоўца з Масквы Аляксей Каўка адрэагаваў на гэта наступным чынам: *«Так, я куплены,* — сказаў ён. — *Куплены Багушэвічам, Купалам, родным беларускім словам»*. Прафесар Уладзімір Конан, выступаючы ў другі дзень работы з'езда, даў свой каментар: *«Калі чалавека гвалтуюць, забіваюць — ён крычма крычыць. Таму можна зразумець тых маладых хлопцаў, якія бурна выяўляюць свае эмоцыі: забіваюць жа нацыю!»* А Станіслаў Шушкевіч сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ: *«Узровень нахабства і крывадушнасці ўладаў такі, што цярпенне людское не вытрымлівае»*.

Рэальнае ж становішча беларускай культуры, мовы, дзяржаўнасці ў нашай краіне было адлюстраванае ў выступах Р.Гарэцкага, В.Быкава, Г.Бураўкіна, Н.Гілевіча, У.Коласа, іншых прамоўцаў. Вядомы ўкраінскі паэт і грамадскі дзеяч Іван Драч паведаміў, што ў канцы жніўня ў Кіеве будзе праходзіць з'езд украінцаў свету — і дзяржава бярэ чынны ўдзел у яго падрыхтоўцы, у аргкамітэт уваходзіць віцэ-прэм'ер урада. А сённяшняя беларуская дзяржава выразна прадэманстравала сваё стаўленне да беларушчыны. Больш за тое, на з'ездзе прагучала думка, што неўзабаве рэжым падзеліць усіх беларусаў замежжа на «чэсных» і «нячэсных», а таксама пачне ствараць нейкую арганізацыю ў альтэрнатыву «Бацькаўшчыне».

І гэтаму ёсць пацверджанне. На з'ездзе былі спробы зачытаць «калектыўныя лісты беларусаў» з Малдавіі і Украіны ў падтрымку *«адзіна правільнага курса прэзідэнта»*, а ўчора, у панядзелак, Аляксандр Лукашэнка запрасіў да сябе на прыём асобных удзельнікаў.

І яшчэ на з'ездзе прагучала адна вельмі сумная вестка. 25 ліпеня на 94-м годзе жыцця ў Злучаных Штатах памерла выдатная беларуская паэтка Наталля Арсеннева. Дэлегаты і госці з'езда ўшанавалі яе памяць хвілінай жалобнага маўчання.

**Людміла ЧАПРОЎСКАЯ**

*ПОМСТА*

## Паўлу Шарамету «шыюць» крымінал

**Тры супрацоўнікі беларускага бюро Грамадскага расійскага тэлебачання — загадчык бюро Павел Шарамет, аператар Зміцер Завадскі і кіроўца Яраслаў Аўчыннікаў — могуць трапіць на лаву падсудных.**

Усе трое былі затрыманыя ўвечары 26 ліпеня супрацоўнікамі аператыўнай службы Памежных войскаў Беларусі ў сувязі з узбуджэннем крымінальнай справы па факце незаконнага пераходу імі дзяржаўнай мяжы (аб гэтым інцыдэнце СВАБОДА падрабязна пісала ў папярэднім нумары).

На працягу сутак пасля затрымання сваякі і калегі журналістаў ОРТ змаглі даведацца толькі тое, што яны былі дастаўленыя ў камендатуру пагранвойскаў у Ашмянах. Там адбылося дазнанне і праведзены следчы эксперымент. Па пэўнай інфармацыі, журналісты пераведзеныя ва Упраўленне КДБ Гродзенскай вобласці.



Адразу пасля затрымання прадстаўнікі Памежных войскаў сцвярджалі, што супрацоўнікі ОРТ *«запрошаныя на гутарку ў якасці сведкаў»*. Суткі, што прайшлі пасля затрымання, унеслі пэўныя карэктывы. Камандуючы памежнымі войскамі Аляксандр Паўлоўскі ў праграме «Рэзананс» заявіў, што дзеянні групы ОРТ, якая быццам бы нарушыла дзяржаўную мяжу падчас правядзення здымак, можна разглядаць як злачынства, прадугледжанае часткай 2 арт. 80 Крымінальнага кодэкса — *«незаконнае парушэнне дзяржаўнай мяжы, ажыццёўленае групай асобаў па папярэдняй змове»*, што цягне за сабой адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да пяці год. Больш за тое, з выступлення ў тым жа «Рэзанансе» прадстаўніка ваеннай контрразведкі КДБ А.Смяяна вынікае, што журналістам ОРТ, акрамя незаконнага пераходу мяжы, могуць «прышыць» нават шпіянаж. Бо ў час, калі яны знаходзіліся ў раёне дзяржаўнай мяжы, там быццам бы праходзіла выпрабаванне новых сродкаў яе аховы. І цяпер КДБ мае намер высветліць, ці выпадкова супалі гэтыя факты.

Падцверджаннем таго, што супрацоўнікам ОРТ могуць быць прад'яўленыя крымінальныя абвінавачванні, сталі іператрусы, што адбыліся вечарам у нядзелю ў карпункце ОРТ, на кватэрах Паўла Шарамета і Яраслава Аўчыннікава. Супрацоўнікі КДБ, што праводзілі вобыскі, шукалі відэакасету, на якую журналісты здымалі каля беларуска-літоўскай мяжы. Пошукі былі марнымі. Здабыткам аператыўнікаў КДБ сталі толькі пашпарт Паўла Шарамета, тэксты ягоных рэпартажаў на тэму аховы мяжы, канфіскаваныя ў бюро ОРТ, а таксама відэакасета з фільмам «Звычайны прэзідэнт» і з дзесятак камп'ютэрных дыскетаў.

Відавочна, што ўлады вырашылі ўсур'ёз узяцца за журналістаў ОРТ і калі не пасадзіць іх за краты, то, прынамсі, запалохаць цяжкасцю ўчыненых «злачынстваў». Тое, як будуць развівацца падзеі, шмат у чым залежыць цяпер ад пазіцыі як кіраўніцтва ОРТ, так і ўрада Расіі, які абяцаў бараніць правы расійскіх журналістаў у Беларусі.

**Ян КАМОЦКІ**

# Тактика режима – ложь вместо логики



Сегодня должен возобновиться рабочий процесс в рамках трехсторонних переговоров между представителями Верховного Совета и президента при посредничестве Евросоюза. 29 и 30 июля, как уже сообщалось, планируется окончательно согласовать процедуру консультаций. От этого в значительной степени зависит дальнейшая судьба переговоров.

На вопросы корреспондента СВАБОДЫ отвечает заместитель председателя Верховного Совета, глава делегации ВС на переговорах Геннадий КАРПЕНКО.

**— Как известно, переговоры застопорились из-за того, что представители правящего режима настаивают на обсуждении лукашенковской «конституции», хотя первоначально они же определяли цель переговоров как «усовершенствование Конституции 1994 г.» Если режим будет стоять на своем, переговоры не смогут продвигаться дальше. Есть ли, на Ваш взгляд, какие-то перспективы у этих переговоров?**

— Какой документ брать за основу — Конституцию 1994 г. или «конституцию» 1996 г. — это принципиальный вопрос. Если бы режим с самого начала предложил обсуждать свою «конституцию» 1996 г., то и парламентская оппозиция, и Евросоюз отказались бы вести переговоры.

Возможен следующий вариант выхода из тупика, в который зашли переговоры: европейцы готовы предложить свой проект конституции. Это — типовой образец конституции европейских государств, с демократическими гарантиями и разделением властей. К этому проекту свои блоки поправок представят Верховный Совет, исполнительная и, вероятно, судебная власть.

**— Но и в этом случае, даже если рабочая группа придет к согласию и выдаст итоговый документ (что проблематично), — какой орган будет принимать окончательное решение?**

— Поставить точку может только Верховный Совет — единственный легитимный законодательный орган. И тут, опять же, есть масса вопросов. Эти вопросы касаются и президентских выборов (которые должны состояться в 1999 г. — это позиция всей Европы), и довыборов в Верховный Совет, и выборов в парламент по новой конституции — формирование Центральной избирательной комиссии, закон о выборах, доступ оппозиции к СМИ... Президентская сторона понимает, что эти вопросы придется рассматривать, и торопится забить свои клинья, которые впоследствии вынимать будет тяжело. Например, теперь они хотят срочно провести очередную сессию «палаты» и принять свой закон о СМИ, насквозь антидемократический. Все это органично вытекает из главного: режим использует эти переговоры вовсе не для поиска цивилизованного выхода из кризиса, как утверждается на словах — он хочет легитимизировать решения, принятые на сфальсифицированном референдуме, хочет закрепить антидемократические принципы в нашей стране.

**— Но ведь наивно думать, что Евросоюз на это согласится. Зачем же режим инициировал эти переговоры?**

— Я бы не употреблял слово «наивно» — просто при нынешнем режиме это, к сожалению, уже сложившаяся практика белорусской политики: думать одно, говорить другое, делать третье. Эта практика используется на всех уровнях, в том числе и на международном.

**— Однако Лукашенко на что-то рассчитывал, приглашая сюда европейцев. Неужели он пригласил их только затем, чтобы в очередной раз продемонстрировать всему миру свою твердолобость?**

— Вы задаете вопрос, исходя из логики, — а действия Лукашенко логике не поддаются. Здравый смысл для нашего диктаторского режима заменяют грубая ложь, нажим и демагогия. Но с европейцами такие способы ни к чему не приводят — разве что укреплению понимания того, что в действительности происходит в Беларуси.

**— После переговоров Вы встречались с жителями Минска, объясняли им свою позицию. Как воспринимают люди эту ситуацию? Удается ли донести до них, кто виноват в срыве переговоров?**

— Да, безусловно. Когда начинаешь объяснять, люди всё прекрасно понимают. При этом они просят: «Ради Бога, найдите согласие — жизнь ухудшается на глазах». Ведь от того, что европейские страны не хотят сотрудничать с диктаторским режимом, экономические потери Беларуси равняются, по разным оценкам, от 20% до 30% внутреннего валового продукта.

**— Можно ли трактовать отсрочку в проведении переговоров как время на раздумье, которое европейцы дали нашему режиму?**

— Точнее сказать — время на принятие решения. Если 29—30 июля будет наконец принят регламент, европейская сторона, насколько мне известно, будет готова сразу же сделать презентацию своего проекта конституции для нашей страны. Понятно, что в любом случае президентская сторона будет стараться ограничиться только косметическими изменениями, что реально демократического устройства нашего государства она не хочет. Но — будем двигаться дальше, будем работать.

**— А если регламент принят не будет — продлятся ли переговоры в сентябре?**

— Я очень в этом сомневаюсь. О чем вести переговоры, если иссяк сам предмет обсуждения? Когда европейцы увидели, что со стороны представителей Лукашенко идет затяжка времени и нежелание обсуждать то, что сами эти представители ранее просили обсудить (Конституцию 1994 года) — Европа поставила вопрос жестко и однозначно. И дальше тянуть волынку Лукашенко не удастся.

*Беседовал*
**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

# Кто будет президентом России в 2000 году?

## *Александр Лукашенко пока имеет примерно равные шансы с Леонидом Якубовичем*

В преддверии нового столетия России суждено еще раз осмыслить свое настоящее и будущее на выборах президента страны в 2000 году. Как показал всероссийский опрос, проведенный в июле по заказу еженедельника «Аргументы и факты» Институтом социологии парламентаризма, механизм политического самоопределения граждан уже запущен.

Для того, чтобы избежать какого-либо прямого или косвенного давления на респондентов, им предлагалось самим назвать фамилию кандидата. Вопрос: **«Кого из нынешних российских политиков, общественных деятелей вы бы выдвинули кандидатом в президенты России 2000 года?»**

| | |
|---|---|
| **Указали фамилию «своего» кандидата в президенты России 2000 года** | **26%** |
| **Не видят достойных кандидатур** | **32%** |
| **Затруднились определить** | **42%** |

Среди «кандидатов в президенты России 2000 года», выдвинутых респондентами, голоса распределились следующим образом (в % от общего числа названных кандидатов):

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1. Г.Зюганов** | **23,8%** | **7. Б.Ельцин** | **3,4%** |
| **2. Б.Немцов** | **21,8%** | **8. А.Тулеев** | **2,0%** |
| **3. А.Лебедь** | **15,8%** | **9. А.Чубайс** | **1,6%** |
| **4. Г.Явлинский** | **10,7%** | **10. В.Черномырдин** | **1,4%** |
| **5. Ю.Лужков** | **5,2%** | **11. Е.Гайдар** | **0,7%** |
| **6. В.Жириновский** | **4,4%** | **12. С.Федоров** | **0,5%** |

Еще 35 «выдвиженцев», названных респондентами, собрали в сумме 8,7% голосов. Каждый из них упомянут от 1 до 6 раз. Среди кандидатов: В.Брынцалов, А.Вольский, М.Горбачев, С.Горячева, Б.Громов, А.Казанник, Е.Лахова, А.Лукашенко, Н.Михалков, Е.Примаков, Э.Россель, Л.Рохлин, А.Руцкой, Н.Рыжков, Г.Селезнев, Г.Старовойтова, Б.Федоров, И.Хакамада, М.Шаккум, Л.Якубович и другие.

Так или иначе, в бюллетене первого тура президентских выборов 2000 года россияне увидят многих из тех, кто сегодня перечислен в «народном списке» претендентов. Можно смело утверждать: среди них и тот, кто победит в 2000 году.

# Доступ к телу – только по указу

**Очередной указ Александра Лукашенко с грифом «не для печати» посвящен лично ему и утверждает порядок проведения мероприятий с участием президента.**

Новым указом от 7 июля, скромно и стыдливо спрятанным от публики, подробно регламентируется, как и в какие сроки следует организовывать разнообразные мероприятия при участии Александра Лукашенко. Инициатора проведения шоу с участием «специально приглашенной звезды» вменяется в обязанность множество различных дел — например, заблаговременно предоставлять тезисы докладов и выступлений Лукашенко, справки и материалы по вопросам, которые возможно будут обсуждаться во время мероприятия, списки присутствующих лиц и т.п. Обеспечение государственной символики, исполнение гимна, оформление рабочего места президента (очевидно, имеется в виду трибуна, ибо не о станке же речь) и прочий антураж надлежит обеспечить ведомству Иван Иваныча Титенкова.

Причем инициаторам стоит побольше, чем семь раз, подумать, прежде чем приглашать сановную особу — виновным в неисполнении указа грозит даже увольнением.

Утверждение списков присутствующих лиц, выступлений, программы мероприятия — все это лежит на плечах администрации и лично ее главы. В случае *«ненадлежащей и несвоевременной подготовки мероприятия»* администрация президента по согласованию с ним вправе принять решение об отмене данного мероприятия. Указания администрации по проведению мероприятий с участием г-на Лукашенко обязательны для всех структур, — в том числе и для госсекретариата Совета безопасности, то есть в этом смысле Мясникович выше Шеймана.

Новый указ принесет (точнее, уже принес) кучу проблем многочисленным чиновникам. Кроме придания столь высокого значения протокольному процессу, который вполне мог бы регламентироваться должностной инструкцией, текст указа требует внесения соответствующих изменений в действующее законодательство.

**Алесь САДОВСКИЙ**

# Европа урезала белорусскую квоту

**На традиционный международный деловой форум «Европартенариат», который в этом году пройдет во Франции 15—17 октября, поедет впятеро меньше белорусских представителей, чем предполагалось.**

Минский Центр деловых связей, не первый год занимающийся организацией поездок белорусских делегаций на «Европартенариат», направил в оргкомитет список из 25 компаний, представители которых изъявили желание участвовать в форуме. Недавно присланный ответ из Франции содержит вежливое, но беспрекословное предложение — сократить список белорусских участников до 5. Соответствующее решение приняла комиссия Евросоюза, занимающаяся организацией и финансированием «Европартенариата» в рамках программы *TACIS*.

**Максим БУРАЧЕВСКИЙ**

ДАГЕРОТИП

**Семен БУКЧИН**

# «Принял для доклада и заслушал информацию»

## *Лексика эпохи маленького императора*

Одно из моих любимых газетных чтений — «сообщения пресс-службы президента» (прошу прощения у той же службы, что пишу это священное слово с маленькой буквы, но делаю это не из святотатства, а только следуя нормам русского языка). Когда я читаю очередное «сообщение», неистовый верноподданнический восторг охватывает меня. Мне хочется немедленно встать, маршировать, отдавать честь! И вообще чувствовать себя этаким гордым исполнительным винтиком большой государственной машины.

Вам незнакомо это чувство? Значит, вы плохо читаете сообщения пресс-службы президента!

Ну вот хотя бы это: *«14 июля Президент Республики Беларусь А.Г.Лукашенко принял для доклада министра иностранных дел И.И.Антоновича».*

Не для чего-нибудь такого принял! Не для игры в теннис или питья кофе! Для доклада! Все четко, по-военному. Надо полагать, что и сам доклад протекал в соответствующей обстановке.

Министр, вероятно, стоял навытяжку, руки по швам. А как же еще докладывают? Правда, И.И.Антоновичу это может быть несколько затруднительно по причине солидной фигуры, но тут уж ничего не попишешь — служба есть служба.

Это в других, несерьезных странах все проходит в атмосфере какой-то разболтанности. Ну что это такое, в самом деле? *«Президент Клинтон встретился у себя на ранчо с секретарем Госдепартамента Олбрайт. Во время встречи они обсудили...»*

Что значит — встретился? Выходит, что Клинтон считает Олбрайт ровней себе? И что такое — обсудили? Что это — приятельский треп, что ли?

Все должно быть ясно — кто начальник, а кто дурак, то есть подчиненный. Начальники не встречаются с подчиненными, *а принимают их для доклада*! Если бы Клинтон в свое время покрутился в номенклатуре Шкловского района, он бы хорошо это усвоил. Как и то, что начальники ничего не обсуждают с подчиненными. Они, начальники, только *заслушивают информацию*. Поэтому в «сообщении» совершенно правильно сказано: *«Президент заслушал информацию по ряду текущих вопросов внешнеполитической деятельности».*

Солидно! Как и должно быть! Ну и далее соответственно: *«А.Г.Лукашенко потребовал от министра более конкретной работы по реализации многовекторности в политике, и в особенности на белорусско-российском направлении».*

Наверное так и сказал: «Требую реализации многовекторности в политике!» А министр щелкнул каблуками и ответил: «Слушаюсь!» И сразу же стал заниматься реализацией, то есть, будучи ярым западником, развернулся на Восток.

Теперь попробуем представить себе, что в «Нью-Йорк Таймс» появилось сообщение: *«Президент Клинтон потребовал от госсекретаря Олбрайт...»*. Увы — подобное невообразимо. У этих распущенных западных либералов такое не принято. Там могут сказать: *«президент предложил госсекретарю...», «президент пожелал...», «президент высказался в том смысле, что следует...»*

Короче, употребляют всякую либеральную чепуху. Ну а если бы Клинтон отважился предложить миссис Олбрайт заняться *«более конкретной работой по реализации многовекторности в политике»*, я полагаю, что госсекретарь указала бы мистеру президенту, что она не школьница, и попросила бы его более ясно очертить свои предложения. В смысле той же многовекторности...

Но это возможно, повторяю; только в несерьезных странах, с прогнившим государственным аппаратом. У нас и близко такого не может быть. Военный стиль не предполагает никаких дискуссий. Президент потребовал, остальные — должны исполнять! Даже если президент требует невозможного.

Ну вот такое, к примеру: *«Глава государства дал указание Министерству иностранных дел продолжить диалог с европейскими региональными организациями».*

Странно, ведь диалог предполагает добрую волю *с обеих сторон!* Но это вы так считаете. А президент Лукашенко *дал указание с одной стороны,* и извольте, батенька, выполнять! У нас диалог возможен, даже если этого желает только одна сторона! И в этом наша сила!

Военный стиль подразумевает отсутствие всякой сентиментальности. В «сообщении» говорится: *«Президент Республики Беларусь направил соболезнование президентам Польши, Чехии и Австрии в связи со стихийным бедствием...»* Как правило, соболезнование выражают. Но подобный прием, видимо, означал бы некую слабость нашего президента. Поэтому он не *«выразил»*, а *«направил соболезнование»*. Все строго, официально — взял и направил... А мог бы и не направить. Поэтому пусть будут счастливы президенты Польши, Чехии и Австрии. Наш не всем *направляет*. Тем более, что *направляют* телеграмму или письмо с выражением... А наш сразу — соболезнование...

Строгая у нас страна. А все потому, что президент строгий, четкий. Здесь не болтают. Здесь «принимают для доклада», «заслушивают информацию», «требуют» и «дают указания». Как выражение высшей милости — могут «направить соболезнование».

Такой стиль не всем дается. Зато им в совершенстве владеют в пресс-службе президента. Сам г-н Толкачев недавно заявил о себе: *«Я всегда был любопытен к знаниям и информации»* («Советская Белоруссия», 19 июля).

Любопытен к знаниям — это, конечно, хорошо... Хотя и не совсем грамотно. Но для тех, кто «заслушивает информацию», вполне понятно. Скромно и со вкусом. Такого, пожалуй, можно принять. Для доклада.

Уладзімір АРЛОЎ, Генадзь САГАНОВІЧ

# Дзесяць вякоў беларускай гісторыі

## *Беларусь у Расейскай імперыі*

## 1(14) жніўня 1906. Выйшаў першы нумар легальнай беларускай газеты «Наша Доля»

Першая легальная грамадска-палітычная і літаратурная газета «для вясковага і местачковага рабочага люду» выйшла ў свет адначасна лацінкаю і кірыліцай на васьмі старонках невялікага фармату агульным накладам 10 тысяч асобнікаў. У артыкуле «Да чытачоў» газета сфармулявала сваю праграму так: «Пісаць мы будзем для вёскі і будзем бараніць справы вясковых людзей. Лічачы найбольшым ворагам цямноту і бяспраўнае палажэнне мужыка, мы аб'яўляем вайну ўсім цёмным сілам, каторым дзеля карысці сваёй вялікая выгада была трымаць васьмімільённы народ беларускі ў няволі і паняверцы, баламуціць і дурыць яго. У дзісейшы вялікі момант, калі ўсе народы гасударства расійскага, аб'явіўшы вайну старым парадкам, напрагаюць усе свае сілы, каб дабіцца свабоды і лепшае долі, мы будзем разам з імі... Мы верым, што шчырыя прыяцелі вялікае народнае справы памогуць нам у гэтай працы. Мы маем надзею, што пры іх помачы «Наша Доля» разыдзецца далёка па ўсёй нашай маці зямліцы Беларускай...»



Алаіза Пашкевіч (Цётка).

Стваральнікамі газеты была група сяброў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, а выдаўцом і рэдактарам — жыхар Вільні Іван Тукеркес.

У першым нумары былі змешчаныя верш Якуба Коласа «Наш родны край», якім паэт дэбютаваў у друку, а таксама вядомае рэвалюцыйнае апавяданне «Прысяга над крывавымі разорамі» Цёткі (Алаізы Пашкевіч), што брала чынны ўдзел у заснаванні газеты. У трэцім нумары з'явілася апавяданне «Суд» Ядвігіна Ш. Аднак ідэйны кірунак «Нашай Долі» вызначалі найперш не літаратурныя творы, а публіцыстычныя і агітацыйныя матэрыялы: «Што будзе?», «Даход расійскага цара», «Аб народных дэмакратах», «Колькі стояць рускія генералы», «Як мужыку палепшыць сваё жыццё» ды іншыя. Яны паведамлялі пра рэвалюцыйныя падзеі ў імперыі, выкрывалі палітыку царызму і «истиннорусских людей» у Беларусі. Нядзіва, што газета адразу прыцягнула пільную ўвагу ўладаў. Ужо назаўтра пасля выхаду першы нумар быў канфіскаваны, а ў рэдакцыі паліцыя ўчынілаператрус.

З нумара ў нумар «Наша Доля» друкавала падборкі карэспандэнцый «З Беларусі і Літвы», «Па Расеі», «Усяго па троху». Газета вучыла сваіх чытачоў салідарнасці незалежна «ад веры і народнасці», бо «ўсё гэта браты па бядзе і нядолі». У рэдакцыйным артыкуле «Аб выбарах у Гасударственную Думу» можна пачуць водгулле публіцыстыкі «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага: «Дык вот жэ і трымайцеся разам, не завадзіце адзін з другім сварак, выкіньце са свайго сэрца тую нянавісць адзін да другога, каторую вашы ворагі ў вас засяваюць, каб вы ў гэтай братаўбійсцвеннай вайне патрацілі свае сілы і не маглі ваяваць з праўдзівымі вашымі ворагамі і гнябіцелямі. Ведайце добра, жэ пакуль вы ўсе разам — вы сіла, а як разлучыцеся ды пойдзеце кожны па сабе, дык тады вас перадушаць, як мух. Вазьміце куль саломы і паспрабуйце яго зламаць. Які бы чалавек ні быў, а цэлага куля не зломіць, а як развязаць куль ды па горстачцы — дык і малы дзяцюк не толькі куль, але і цэлы воз саломы пераламае. Таксама гэта і з вамі».

Па-сапраўднаму разгарнуць сваю дзейнасць «Наша Доля» так і не здолела. Яе няўхільна душыла цэнзурная пятля. Чатыры з шасці нумароў былі канфіскаваныя. Віленская судовая палата неаднаразова разглядала справы пра арышт газеты, а 11 студзеня 1907 года вынесла прысуд: спыніць выданне і зняволіць рэдактара тэрмінам на 1 год.

«Наша Доля» спыніла сваё існаванне, але на змену ёй ужо прыйшла новая беларуская газета. У прамежку паміж чацвертым і пятым нумарамі «Нашай Долі» беларускі чытач атрымаў першы нумар «Нашай Нівы», якой быў наканаваны даўжэйшы і шчаслівейшы лёс.

**У.А.**

## 10 (23) лістапада 1906. Пачаў выходзіць беларускі тыднёвік «Наша Ніва»

Гэтай грамадска-палітычнай, літаратурна-мастацкай і навукова-папулярнай газеце належыць велізарная роля ў згуртаванні ўсіх нацыянальных сілаў, якія змагаліся за адраджэнне Беларусі.

Заснавальнікамі новага выдання былі браты Іван і Антон Луцкевічы ды іхны паплечнік па Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе Аляксандр Уласаў. «Наша Ніва» выдавалася ў Вільні да жніўня 1915 года (спачатку кірыліцай і лацінкаю, а з кастрычніка 1912 года — толькі кірыліцай). У розны час рэдактарамі-выдаўцамі газеты былі С. Вольскі, А. Уласаў, Янка Купала.

У першым нумары рэдакцыя давала абяцанне служыць «усяму беларускаму скрыўджанаму народу». Палітычная пазіцыя газеты ў залежнасці ад абставін мянялася, спалучаючы ў сабе рэвалюцыйна-дэмакратычныя і ліберальна-асветніцкія погляды, але «Наша Ніва» нязменна выступала супроць царскага вялікадзяржаўніцтва і польскага шавінізму, супроць рэакцыі і чарнасоценнага тэрору, за дэмакратычныя правы і свабоды. На яе старонках змяшчаліся матэрыялы аб рэвалюцыйных падзеях, жыцці беларускіх вёсак і гарадоў, аб становішчы эмігрантаў.


Цэна асобнаго нумару 5 кап.

Год V. Вільня 26 Серпня (Аугуста) 1910 г. № 35.

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМІ

Выходзіць што тыдзень рускімі і польскімі літэрамі.

Адрэс рэдакціі і адміністрациі: Вільня, Віленская вуліца, д. № 20.

Цэна з пересылкай і дастаўкай да хаты: на 1 г.—2 р. 50 к., на 6 мес. — 1 р. 25 к., на 3 м.—65 к., на 1 мес. — 25 к. За граніцай на 1 г. — 4 р., на 6 мес. —2 р., 3 мес. —1 р. Перемена адрэсу — 20 кап.

Руіны замчышча у Міры.

Адзін з нумароў «Нашай нівы» за 1910 год.

«Наша Ніва» здолела зрабіцца сапраўды народнай, агульнабеларускай газетай. Дастаткова сказаць, што за першыя тры гады тут было надрукавана болей за дзевяцьсот допісаў з 490 мястэчкаў і вёсак. Газета мела падпісчыкаў не толькі ў розных кутках Беларусі, але і па ўсёй імперыі. Яна ішла ў Прагу, Брно, Львоў, Парыж, Льеж, у Злучаныя Штаты Амерыкі.

«Мы, мікалаеўцы, жывём патроху, як той казаў, і перакідваемся з нагі на нагу. Газету вашу любім чытаць і слухаць, бо ў ёй пішуць аб тым, чаго хоча беларускі народ», — прызнаваліся ў навагоднім віншаванні жыхары прынёманскай вёскі Мікалаеўшчына ў 1909 годзе. Пад лістом стаяла 39 подпісаў. У тым самым нумары падаваў голас сваім вершам «З песень астрожных» саракавы мікалаевец — Якуб Колас, што на той час сядзеў у турме.

«Наша Ніва» невымерна шмат зрабіла для развіцця беларускай літаратуры. Менавіта тут дэбютаваў апавяданнем «Музыка» Максім Багдановіч. З публікацый у беларускім тыднёвіку пачалі свой творчы шлях Максім Гарэцкі, Алесь Гарун, Канстанцыя Буйла, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Янка Журба, Уладзіслаў Галубок... На старонках «Нашае Нівы» ўпершыню пабачылі свет Купалавы паэмы «Курган» і «Бандароўна», урыўкі з «Новай зямлі» Якуба Коласа, шэраг літаратуразнаўчых артыкулаў Багдановіча і Гарэцкага, Сяргея Палуяна і Уладзіміра Самойлы. Газета знаёміла з найлепшымі творамі іншых літаратур — найперш расейскай, польскай і ўкраінскай. Падпісчыкі атрымалі магчымасць на сваёй роднай мове прачытаць апавяданні і вершы Антона Чэхава, Льва Талстога, Адама Міцкевіча, Валерыя Брусава, Тараса Шаўчэнкі, Элізы Ажэшкі, Марыі Канапніцкай, Стэфана Жаромскага ды іншых. Былі адзначаныя юбілеі Гогаля, Талстога, Шаўчэнкі, Шапэна, Дарвіна...

Рэдакцыя займалася і кнігавыданнем. Дзякуючы ёй выходзілі беларускія календары, альманахі, перакладныя творы, пабачылі свет кніжкі Якуба Коласа, Ядвігіна Ш., Гальяша Леўчыка. На старонках «Нашай Нівы» ды ў іншых яе выданнях адбывалася выпрацоўка нормаў беларускай літаратурнай мовы і правапісу. Вялікі даробак належыць газеце ў развіцці і папулярызацыі беларускага тэатра, музыкі, фальклору і ўсёй нацыянальнай культуры.

Выдаўцы і супрацоўнікі тыднёвіка лічылі сваім абавязкам будзіць гістарычную памяць народа. На пачатку 1908 года «Наша Ніва» паведаміла пра ўдзел беларускай дэлегацыі ва ўсеславянскім з'ездзе студэнтаў у Празе, дзе адзін з дэлегатаў гаварыў: «Беларусы ў Празе былі яшчэ 500 гадоў таму. Тады ў іх была багатая літаратура. Яны надрукавалі па-беларуску Біблію. Па-беларуску надрукаваны быў і Статут Літоўскі. Цяпер... пра беларусаў ніхто нічога не знае». У 1910 годзе штотыднёвік з нумара ў нумар друкуаваў «Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлава Ластоўскага.

Будынак рэдакцыі газеты «Наша Ніва» у Вільні.




Заслугамі «Нашай Нівы» былі і яе клопаты аб развіцці краязнаўства, збіранне беларускай даўніны. Пры газеце захоўвалася унікальная калекцыя Івана Луцкевіча. «Ціха... Поўнач, — пісаў пра яе Змітрок Бядуля. — Я сяджу адзін у рэдакцыі... Агонь вялікай лямпы кідае нейкае таемнае сьвятло з-пад блакітнага каўпака на сьцены і шафы... На сьценах вісяць абразы даўнейшых беларускіх князёў, старасьвецкія беларускія вопраткі, шаблі, шаломы і панцыры ваякаў XVI стагоддзя. Розныя тканіны народнай беларускай творчасьці, паясы слуцкія, дываны, разьба розная. Музыкальныя інструменты — дуда, цымбалы, труба пастырская, жалейка. У шафах ляжаць скарбы мінуўшых гадоў: манеты, медалі, пячаткі, кнігі беларускае пісьменнасьці. Жывая паэма старыны!..»

У сваёй шматстайнай дзейнасці «Наша Ніва», вядома, няраз сутыкалася з цэнзурнымі перашкодамі. На запыт мясцовага ахраннага аддзялення паліцыі Віленскі камітэт па справах друку ў 1907 годзе даў газеце такую характарыстыку: «Спярша крыху памяркоўнейшая, чым «Наша Доля», пачала пасля змяшчаць артыкулы бунтоўнага характару, за што некалькі разоў канфіскоўвалася».

Выданне «Нашай Нівы» было цэлай эпохаю ў беларускім адраджэнні пачатку XX стагоддзя.

**У.А.**

# Багацці Афрыкі ў швейцарскіх банках

**«Калі вы збіраецеся красці — рабіце гэта інтэлігентна і патроху. Бо калі вы разбагацееце за адну ноч — вас адразу схопяць за руку». Гэтая парада, якую нядаўні заірскі дыктатар Мабуту Сэсэ Сэка выказаў сваім суграмадзянам у траўні 1976 г., па сутнасці толькі пераказвае артыкул 15 тагачаснай заірскай канстытуцыі, які фактычна дэклараваў, што грамадзяне маюць права красці ў дзяржавы — абы ціха было. Каб было на што жыць — трэба «круціцца», і ўсім дзяржаўным чыноўнікам гарантуецца адпаведны пасадзе кавалак «нацыянальнага пірага», ускосна патлумачыў Мабуту.**

Праз два дзесяцігоддзі ў выніку грамадзянскай вайны Мабуту вымусілі пайсці ў адстаўку, але ягоная ўласная кішэнь на той час была ўжо поўная да краёў. Набытак Мабуту ацэньваецца ў 4 мільярды долараў — сума, роўная знешняму доўгу краіны.

Ягоны наступнік Ларан-Дэзірэ Кабіла, які яшчэ нядаўна жыў з кантрабанды, цяпер, пасля пераможнага маршу ягоных войскаў на Кіншасу, атрымаў у якасці ваеннага трафею ўсю краіну — і ўжо заключыў з амерыканцамі новыя выгадныя кантракты на вываз яе прыродных багаццяў (дыяментаў, кобальту, медзі і г.д.).

Маральныя нормы, закладзеныя ў заірскім «артыкуле 15», шануюцца ва ўсіх сталіцах Чорнай Афрыкі ад Дакара да Найробі і ад Хартума да Ёганесбурга. На працягу ўсіх гадоў незалежнасці гэтых краін прэзідэнты-дыктатары застаюцца найбольш заможнымі грамадзянамі. Асабістаму ўзбагачэнню спрыяюць два ключавыя фактары: аднапартыйная сістэма (або канцэнтрацыя ўлады ў прадстаўнікоў аднаго племені) і выключнае доўгажыхарства рэжымаў. Аж да канца 80-х улада ва ўсіх краінах Чорнай Афрыкі, за выключэннем Батсваны і ПАР, заставалася аднапартыйнай і згуртаванай вакол таго ці іншага харызматычнага лідэра, які прыладкоўваў дзяржаўную палітыку да інтарэсаў уласнага клану. Узорным тут можна назваць прэзідэнта дзяржавы Кот-д'Івуар Фелікса Уфуэ-Буаны, які кіраваў краінай трыццаць тры гады да самай смерці ў 1993 г., і нажыў (чытай: накраў) за гэты час 7 млрд. долараў.

Вялікай удачай афрыканскіх тыранаў была стратэгічная роля кантынента ў геапалітычным супрацьстаянні Усходу і Захаду. Змагаючыся з савецкай, кітайскай, а потым лівійскай экспансіяй, Захад мусіў падтрымліваць «сяброўскія рэжымы» — асабліва тыя, якія можна было скарыстаць у якасці апірышча для антыкамуністычных партызан накшталт ангольскага вызваленчага руху «Уніта». Эксперты міжнародных фінансавых арганізацый і змагары за правы чалавека маглі лямантаваць колькі заўгодна — інтарэсы вялікай палітыкі дыктавалі свой выбар.

Апрача таго, чорныя дэспаты незалежна ад палітычнай афарбоўкі накладаюць лапу на легальны і нелегальны экспарт прыродных багаццяў. Былы дыктатар Конга, адданы марксіст-ленінец Дэні Сасу Н'Гесо нажыў 240 млн. долараў на кантрабандзе дыяментаў. Шматгадовы прэзідэнт Малі Муса Траорэ, які цяпер сядзіць за кратамі, схаваў на рахунках у замежных банках больш за 2 млрд. долараў. Асабістае багацце былога прэзідэнта Нігерыі Ібрагіма Бабанджыды, які спакойна жыве ў адстаўцы, сягае за 6 мільярдаў. Вялікі сябра СССР, эфіёпскі дыктатар Менгісту Хайле Марыям жыве цяпер на ўласнай ферме ў Зімбабве. У адрозненне ад Бабанджыды, свае 40 мільёнаў ён зарабіў на экспарце не нафты, а ўласных суграмадзян — эфіёпскіх габрэяў-фалашаў, легендарных нашчадкаў цара Саламона, за кожнага з якіх Ізраіль пераводзіў пэўную суму на асабісты рахунак Менгісту ў нью-ёркскім «Сіцібанку».




*Узорны афрыканскі прэзідэнт Фелікс Уфуэ-Буаны аднойчы сказаў: «Свае грошы я трымаю на дэпаненце Вечнасці. Толькі ёй вядома, колькі я атрымаў і колькі аддаў». Былы французскі дэпутат і міністр, а потым (калі калонія атрымала незалежнасць) прэзідэнт Кот-д'Івуара з 1960 аж да самай смерці ў 1993 годзе, Уфуэ-Буаны любіў паўтараць: «Ці ж можа лічыцца сур'ёзным чалавек, які не захоўвае частку сваіх грошай у Швейцарыі?»*

Знікненне старога сусветнага парадку з ягонымі рэгіянальнымі канфліктамі, якія раздзьмувала канфрантацыя Усходу і Захаду, дапамагло адрадзіць у афрыканскіх краінах шматпартыйную сістэму. Тым не менш маштабы карупцыі і раскрадання грамадскіх фондаў засталіся ранейшыя. Шматпартыйная сістэма і, у перспектыве, чаргаванне ва ўладзе некалькіх партый — не больш чым сродак пераразмеркавання «дзяржаўнага пірага» на карысць кланаў, якія раней заставаліся ў цяню. І гэта пры тым, што пірог стаўся значна меншы, а прагных едакоў вакол яго паболела.

Ілюстрацыяй тут могуць служыць «нацыянальныя канферэнцыі» (круглыя сталы палітычных партыяў), якія ў некаторых краінах доўжацца шмат гадоў толькі таму, што маюць зацверджаны дзяржаўны бюджэт і пераварыліся ў кармушку для дэлегатаў. Галоўнае тут — не вынік, а ўдзел. Нават кіраўніцтва круглага стала ў Бразавілі (сталіцы Конга) доўгі час было ўпэўненае, што за абрэвіятурай АКД хаваецца Асацыяцыя кангалезкіх дэмакратаў, і толькі на адным з паседжанняў высветлілася, што гэта дэлегацыя Асацыяцыі кангалезскіх дыябетыкаў. У суседнім Заіры паўстанне вайскоўцаў, якое ў верасні 1991 г. ледзь не зруйнавала сталіцу, было справакаванае затрымкай выплаты афіцэрам заробкаў (90.000 заіраў), тым часам як для дэлегатаў круглага стала 400.000 штомесяц у дзяржавы знаходзіліся. Што да Габона, то дыктатар гэтага нафтавага эмірата на працягу ўжо трыццаці гадоў Амар Бонга (асабістае багацце дасягае 100 млн. долараў) мудра стварыў «кішэнныя» апазіцыйныя партыі, якія ён корміць з уласнай рукі. Дэмакратызацыя па-афрыканску толькі абвастрае галечу народа. Не дзіва, што людзі маюць настальгію па ранейшай дэспатыі, якая хоць і ўціскала грамадзянскія свабоды, але гарантавала мінімальны кавалак хлеба.

І наперадзе Афрыку можа чакаць вяртанне дыктатарскіх карупцыйных рэжымаў ранейшага кшталту (гэта ўжо адбылося ў Беніне і Конга) або прыход да ўлады новых тыранаў, выхаваных у традыцыях трапічнага марксізму-ленінізму, але потым пераарыентаваных на выгады рынкавай эканомікі. З гэтага гледзішча постаць новага заірскага дыктатара Ларана-Дэзірэ Кабілы — раней лумумбіста, потым маоіста, а цяпер прыхільніка ідэй Дэн Сяопіна — выглядае вельмі сімвалічнай, і сумна сімвалічнай.

Гэтаксама, як спробы ўкараніць нешта накшталт «кітайска-афрыканскага сацыялізму» ў нашай уласнай краіне, нібыта далёкай ад Чорнага кантынента.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Ленина хотели вытащить из ящика

*В Берлине состоялся традиционный «Парад любви» — самая большая молодежная тусовка в мире*

В июле 1989 года по главной улице Западного Берлина Курфюрстендам, танцуя под грохот «техно», прошествовали 200 полураздетых молодых людей с раскрашенными волосами. Они сопровождали одинединственный грузовик с динамиками тысяч на пять ватт и по дороге разбили всего одну витрину. Это шествие тогда получило название «Парад любви». И не только потому, что к любви призывали лозунги демонстрантов, но и потому, что молодые люди использовали для любви каждый встречный закоулок.

Никто тогда не мог предположить, что через несколько лет «Парад любви» станет самой массовой молодежной тусовкой в мире.

После того как в позапрошлом году 500.000 «рейверов» — участников «Парада любви» — просто разгромили роскошную Курфюрстендам, решено было перенести шествие в Тиргартен — на улицу от Технического университета до Бранденбургских варот. В прошлом году в фестивале участвовало уже свыше 750 тысяч «рейверов». Но то, что произошло в Берлине в этом году, 12 июля, просто потрясло город.

В столицу Германии прибыло свыше миллиона неистовых гостей со всех пяти континентов. На автобанах образовались многочасовые пробки. Людская лавина парализовала на некоторое время берлинское метро и городскую железную дорогу. Оглашая окрестности неимоверным свистом (свистки — необходимый атрибут «рейвера» — продавались на каждом углу), толпы двинулись к месту сбора пешком, остановив весь остальной транспорт в районе станции «Зоологический сад».

Самые предусмотрительные и спокойные расположились в течение под Бранденбургскими воротами или на лужайках вокруг зоопарка, обзавелись пивом и спокойно ожидали приближения процессии. Но большинство впало в экстаз еще до появления первого гремящего монстра, тихо трясясь под воображаемые ритмы. Ведь таблетки «экстази» продавались почти открыто. Над парком курился дымок от десятков тысяч сигарет с «травкой». По оценкам, к началу празднества примерно 300.000 человек уже впали в наркотическое опьянение. А масштабы потребления алкогольных напитков учесть было просто невозможно.

Наконец шествие началось. К центру города двинулись 40 огромных автомобилей. На специальных платформах — танцующие активисты того или иного объединения любителей «техно». Динамики на каждой машине извергают звуки мощностью в 20.000 ватт и частотой ударов 150 в минуту.

Где-то в середине процессии — советский танк Т-34, украшенный цветами и каким-то покрывалом. На его броне — трясущиеся, как в лихорадке, артисты Берлинского ансамбля (труппы, основанной в свое время великим драматургом Бертольдом Брехтом). Кое-кому одного танка показалось мало, и они попробовали взобраться на две боевые машины, установленные на постаментах прямо в Тиргартене — у мемориала советским воинам, но были отогнаны полицией. Группа «рейверов» из Венгрии задумала еще более смелый поступок — обнажить памятник Ленину, заключенный до лучших времен в черный ящик во дворике за оградой российского посольства на Унтер-ден-Линден — в двух шагах от Бранденбургских ворот. Но и это намерение было сорвано в зародыше.

Начались танцы нагишом. Обнимались, целовались, совокуплялись. И все под тяжелый ритм, от которого не было спасения. Юные верхолазы облепили старинные семиметровые фонари и раскачивали их, хотя фонари утыканы острыми иголками против голубей. Двое упали, но разбились не насмерть, ибо пребывали, вероятно, в полном физическом и духовном расслаблении. В целом же врачи работали беспрерывно (по всему маршруту было организовано 13 временных медпунктов), оказав срочную помощь почти 2.000 человек и около двух сотен доставив в больницы.



*Во время фестиваля на специальных движущихся платформах танцевали представители различных направлений «техно».*

«Рейверы» тряслись в «технотанце» часов пять. Потом стали рассасываться по 250 различным площадкам, начиная от огромного «Технодрома» и кончая ночлежками в необитаемых домах. И везде свист и — техно, техно, техно!

Что же и кто стоит за этим грандиозным фестивалем? Его главный организатор — фирма «Планетком» во главе с управляющим Ральфом Ригитцем. Он не любит журналистов и с ними никогда не беседует. Зато его пресс-секретарь Петер Лютценкирхен охотно дает интервью в офисе с видом на Шпрее, которая несет свои воды через центр Берлина. Судя по интерьеру, фирма не страдает от нехватки денег, но реальный оборот «Планеткома» — тайна. К тому же Ригитц очень ловко использует ситуацию, выдавая движение «техно» за политическую манифестацию «в пользу мира», оставаясь при этом чистым коммерсантом. Якобы политический характер шествия избавляет его от огромных дополнительных расходов. Заяви он официально, что «Парад любви» — коммерческое предприятие, отношение к нему было бы совсем иным. Так, например, Берлинский Сенат потребовал от организаторов 400.000 марок в качестве возмещения за предполагаемый ущерб. Ригитц заплатил всего 250.000.

Доходы «Планеткома» от «Парада любви» в силу стихийности мероприятия учесть будет чрезвычайно трудно, что, конечно, скажется на налоговых отчислениях. Но создается впечатление, что власти смотрят на это сквозь пальцы. Ибо «Парад любви» как мировая тусовка обладает огромной притягательной силой для молодежи, желающей раз в год «оттянуться» по-крупному, и все это, несомненно, возрождает славу Берлина как мирового города. Лозунгом нынешнего фестиваля было «Пустите солнце в сердце». Это прямой перевод с английского, для нас привычнее — «Пусть всегда будет солнце». Только вот в следующем году «солнце» парада может и не взойти, ибо граждане, кстати, уже один раз судившиеся с «Планеткомом», но проигравшие процесс, настроены на решительную борьбу с нашествием «технокультуры».

**Алексей СЛАВИН**
*(«Общая газета»)*

# Свята Грунвальда ў Гомелі

**Дзень Грунвальдскай перамогі ў Гомелі святкавалі не 15, а толькі 26 ліпеня. Ажно 11 дзён спатрэбілася актывістам ТБМ, каб уладкаваць усе фармальнасці з гарадскімі ўладамі.**

У суботу каля сотні пераважна маладых людзей сабраліся ў дазволеным уладамі месцы — на пляцоўцы каля Дома культуры Таварыства глухіх, што амаль на самай ускраіне Гомеля, каб паслухаць спевы бардаў, прамовы пісьменнікаў і паглядзець на выступ сяброў аб'яднання «Талака». Пільнаваць мерапрыемства прыехалі два аўтамабілі з міліцыянтамі і ў дадатак «варанок». Калі над групай людзей залунаў бел-чырвона-белы штандар, падпалкоўнік міліцыі, пагражаючы складаннем пратакола і пакараннем арганізатараў свята, прымусіў згарнуць сцяг. Аднак напрыканцы мерапрыемства сцяг зноў узняўся над галовамі пад воклічы «Жыве Беларусь!». У астатнім абышлося без інцыдэнтаў.

**Ларыса КАВАЛЬЧУК**

# З юбілеем, дзед Давыд!

**Сто гадоў споўнілася жыхару пасёлка Нахаўскім Калінкавіцкага раёна Давыду Васькоўскаму.**

З гэтай нагоды мясцовы сельсавет уручыў яму каштоўны падарунак. Дзед Давыд — удзельнік грамадзянскай вайны, арганізатар калгаса «Добрая воля» у вёсцы Шаўлоў. За гэта, відаць, і быў рэпрэсіраваны, 5 гадоў адбыў у ГУЛАГу. Пасля ён ваяваў на Другой сусветнай вайне, а працоўны стаж зарабляў у лясніцтвах Рэчыцкага раёна. У лясах, трэба думаць, дзед Давыд і набраўся здароўя.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Апаганеныя магілы

**Акт вандалізму ўчынены на гомельскіх могілках Асаўцы.**

Невядомыя апаганілі і знішчылі тут 37 помнікаў. Міліцыя вядзе следства, сведкаў здарэння няма.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

СПОРТ

# З бальніцы — на п'едэстал

**ВЕЛАСПОРТ: *TOUR DE FRANCE***

Новая зорка сусветнага веласпорту 23-гадовы нямецкі гоншчык Ян Ульрых упершыню стаў пераможцам знакамітай шматдзённай велагонкі *Tour de France*, якая праводзілася ўжо ў 94-ты раз. Перавага Ульрыха над французам Рышарам Віранкам (9 хвілін 9 секунд) і італьянцам Марка Пантані (14 хвілін 3 секунды) больш чым пэўная. На чацвёртым месцы — адзін з мяркуемых фаварытаў гонкі іспанец Абрахам Алана з адставаннем 15,55, на сёмым — мінулагодні чэмпіён Б'ярнэ Рыйс з Даніі (+26,34).

Прыз «самаму актыўнаму гоншчыку» ўручаны суачынніку Ульрыха Эрыку Забэлю, а тытул «горнага караля» чацвёрты год запар заваяваў Віранк. Лепшай камандай стала германская дружына «Тэлеком», у складзе якой якраз выступалі Ульрых і Рыйс. Упершыню немцы дамагліся такога ўнушальнага поспеху і ў асабістым, і ў камандным заліку.

Ульрых ва ўзросце 19 год стаў чэмпіёнам свету сярод аматараў, а ў 22 — дэбютаваў у *Tour de France* і адразу заняў другое месца. Немец прадэманстраваў рэдкую універсальнасць, выйграваючы і горныя этапы, і гонкі з раздзельным стартам — самыя цяжкія выпрабаванні для велагоншчыка. Узнагародай для Ульрыха стаў чэк на 500.000 долараў.

**«ФОРМУЛА-1»: РЭВАНШ УПАРТАГА**

Аўстрыец Герхард Бэргер — старэйшына чэмпіяната свету ў класе аўтагонак «Формула-1», праз месяц яму споўніцца 38. У гэтым сезоне яму на рэдкасць не шанцавала: па-першае, ён трапіў у бальніцу, з-за чаго прапусціў адразу тры этапы чэмпіяната, па-другое, ён атрымаў вестку аб гібелі бацькі, па-трэцяе, гаспадар «Бенетона» Флавія Брыятарэ вырашыў замяніць Бэргера таленавітым маладым італьянцам Джанфранка Фізкелу. Але ўсё гэта толькі раззлавала Бэргера. У суботу ён выйграў кваліфікацыйныя заезды, а ў нядзелю стартаваў з поўл-пазішн і не пакінуў канкурэнтам ніякіх шанцаў. На цэлых 17 секунд Герхард апярэдзіў немца Міхаэля Шумахера, на 24 — фіна Мікі Хакінена. Гэта дзесятая перамога Бэргера на этапах чэмпіянатаў, а перамагаў ён апошні раз тры гады таму.

У сумарным заліку па-ранейшаму наперадзі чэмпіён свету Міхаэль Шумахер — 53 ачкі, другі — Жак Вільнёў, які ў Хакенхайне, дзе праходзіла гонка, сышоў з трасы — 43 балы. У Жана Алзі — 22, Бэргера — 20. Сярод каманд лідзіруе «Ферары» — 71, у «Ўільямс-Рэно» — 62, у «Бенетона» — 42.

**ШАХМАТЫ: ГЕЛЬФАНД У БІЛІ**

Турнір з удзелам трох шахматыстаў сусветнай «дзесяткі» праходзіць у Білі (Швейцарыя). Яны і ўзначальваюць турнірную табліцу. Пасля 5 тураў у Вішванатана Ананда (Індыя) — 4 ачкі, Анатоль Карпаў (Расія) мае 3,5, мінчанін Барыс Гельфанд — 3.

**ФУТБОЛ: ЕЎРАКУБКІ**

У Кубку *UEFA-Intertoto* прайшлі першыя паўфінальныя матчы.

*«Дынама» (Масква) — «Дуйсбург» (Германія) — 2:2. «Асэр» (Францыя) — «Тарпеда» (Масква) — 3:0. «Лакаматыў» (Ніжні Ноўгарад) — «Хальмстад» (Швецыя) — 0:0. «Істанбулспор» (Турцыя) — «Ліён» (Францыя) — 2:1. «Гамбург» (Германія) — «Бастыя» (Францыя) — 0:1.*

**ГІМНАСТЫКА: ІВАНКОЎ НА ПАД'ЁМЕ**

Чэмпіён свету і Еўропы Іван Іванкоў трымае клас. З вялікім адрывам ад канкурэнтаў ён заваяваў Кубак Беларусі за перамогу ў мнагаборстве, а таксама прыгожа перамог у трох фіналах на снарадах — кані, брусах і перакладзіне.

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА: НАШЫЯ НАДЗЕІ**

Алена Іваненка з Бабруйска стала чэмпіёнкай Еўропы сярод юніёраў у штурханні ядра, а гамелец Генадзь Мароз перамог у скачках у высату.

**ТЭНІС: ШВЕЦ ПРАЙГРАЎ**

У фінале мінскага турніра з серыі сатэлітаў мінчанін Аляксандр Швец саступіў французу Максіму Бае — 3:6, 6:3, 4:6. Турнір праходзіў на кортах Мінскага Палаца тэніса.

**Сямён ПЛОЦ**

# Загінуў віцебскі спіртавы «кароль»

**Вядомы памерамі свайго бізнесу віцебскі гандляр спіртам Н. быў забіты невядомымі ў Валожынскім раёне. З кішэні забітага знікла 101 тысяча долараў.**

На прадпрымальніка і ягонага партнёра напалі ля вёскі Кібуці, калі яны спыніліся, каб дамовіцца аб здзелцы з двума мясцовымі «агентамі» аб продажы спірту. Чацвёра ўзброеных людзей у масках расчынілі машыну ў момант перамоваў і пачалі страляніну. Калега Н. і «агенты» цудам засталіся жывыя. Хто забіў і хто навёў злачынцаў на спіртовага «караля», высвятляе міліцыя.

**А.Г.**

# Усёй сям'ёй — у выцвярэзнік

**Па словах начальніка Гомельскага медвыцвярэзніка сп.Аўсянікава, сёлета ў ягонай установе пабывалі 6.656 чалавек.**

Сярод гэтых «кліентаў» 235 жанчын і 14 непаўналетніх. Як сведчаць патрульныя міліцыянты, часам даводзіцца дастаўляць у выцвярэзнік падлеткаў разам з бацькамі. У сярэднім у дзень медвыцвярэзнік прымае 20 п'яніцаў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Плавалі п'яныя — пайшлі на дно

**По інфармацыі Гомельскага абласнога таварыства ратавання на водах, з пачатку года ў Гомельскай вобласці патанулі 65 чалавек, у тым ліку 19 дзяцей.**

86 чалавекам пашанцавала: іх удалося выратаваць. Паказальна, што ў 2/3 выпадкаў людзі патанулі, бо палезлі ў ваду п'янымі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Даты і лёсы

## *29 ліпеня*

**1856.** Памёр у псіхіятрычнай лякарні нямецкі кампазітар Роберт Шуман, які за два гады перад гэтым спрабаваў утапіцца ў Рэйне. А ў 1890 годзе праз два дні пасля спробы застрэліцца памёр таксама псіхічна хворы галандскі мастак Вінсэнт Ван Гог.

**1905.** Нарадзіўся шведскі эканаміст і дзяржаўны дзеяч Х'ялмар Хамаркс'ёлд, які быў другім Генеральным сакратаром ААН і значна падвысіў прэстыж гэтай арганізацыі. У 1961 годзе, ужо пасля ягонай смерці, яму была прысуджаная Нобелеўская прэмія.

**1927.** Выйшаў першы нумар газеты «Рабочий» (з 2 кастрычніка 1937 г. — «Советская Белоруссия»).

**1937.** Адбыўся пленум ЦК КП(б)Б з удзелам эмісараў Сталіна Г.Маленкова і Я.Якаўлева, пасля якога пачаліся масавыя арышты гаспадарчых, партыйных і дзяржаўных кадраў Беларусі. Толькі ў жніўні былі засуджаныя 2.570 чалавек. У іх ліку 23 члены ЦК КП(б)Б і ЛКСМБ, 16 членаў ЦВК і СНК БССР, 40 наркомаў і іх намеснікаў, 24 сакратары акруговых, гарадскіх і раённых камітэтаў партыі, 200 старшынь акруговых, гарадскіх і раённых выканкамаў, 25 акадэмікаў Акадэміі навук БССР, 20 пісьменнікаў, 34 літаратурныя работнікі (усе яны ў 1950—80-я гады рэабілітаваныя, пераважна пасмяротна).

**1977.** У Мінску быў заснаваны Беларускі навукова-даследчы інстытут кардыялогіі.

**1981.** Спадкаемца брытанскага трона прынц Чарльз ажаніўся з лэдзі Дыянай Спэнсэр. За цырымоніяй у лонданскім саборы св.Паўла сачылі 700 млн. тэлегледачоў ва ўсім свеце.

## *30 ліпеня*

**1859.** Канатаходзец Шарль Бландэн першым прайшоў над Ніягарскім вадаспадам па тросе даўжынёй 335 м на вышыні 49 метраў.

**1909.** Нарадзіўся англійскі прафесар гісторыі Сайрыл Паркінсан, аўтар так званага закону Паркінсана: «Праца заўсёды расцягваецца такім чынам, каб запоўніць увесь час, які нам далі на яе».

**1930.** Адбыўся фінал першага чэмпіяната свету па футболе. Уругвай перамог Аргенціну з лікам 4:2.

**1935.** Выйшла першая ў свеце кніга ў мяккай вокладцы — нарыс Андрэ Маруа пра паэта Шэлі ў англійскім выдавецтве *Penguin*. Гэта дало пачатак рэвалюцыі ў выдавецкай справе.

**1966.** У Беларусі значна паболела наменклатуры: былі адноўленыя 17 раней скасаваных раёнаў.

**1984.** Англійская дзяўчынка Холі Рофі, якой было толькі 11 дзён ад нараджэння, сталася наймалодшым у свеце чалавекам з перасаджаным сэрцам. На жаль, яна не пражыла з новым сэрцам і трох тыдняў.

## *31 ліпеня*

**1649.** Каля Лоева адбылася самая буйная бітва падчас антыфеадальнай вайны на Беларусі. Урадавыя войскі ВКЛ разбілі 25-тысячны атрад сялян і казакаў. Кіраўнік паўстанцаў М.Крычэўскі загінуў.

**1861.** У індыйскім горадзе Чэрапунджы была зарэгістраваная рэкордная гадавая колькасць ападкаў — 26.461 мм!

**1909.** Нарадзіўся японскі акцёр тэатра кабукі Кэндзабура Накамура, які выканаў за сваё жыццё рэкордную колькасць роляў — 806. Адпаведна класічным японскім тэатральным канонам, кожная роля выконваецца толькі 25 разоў. Такім чынам, Накамура ўдзельнічаў у 20.150 спектаклях.

**1920.** На сумесным паседжанні Мінскага губрэўкаму і ЦК КП(б) Літвы і Беларусі была прынятая «Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь». Усходняй мяжой ССРБ была прызнаная граніца Мінскай губерні.

**1964.** Амерыканскі карабель «Рэйнджэр-7» перадаў на Зямлю першыя падрабязныя фотаздымкі паверхні Месяца. А ў 1971 годзе Джэймс Ірвін і Дэвід Скот праехаліся па спадарожніку Зямлі на «месячным кабрыялеце». Абодва потым атрымалі пакаранне за тое, што кантрабандай прывезлі з Месяца на Зямлю сувеніры.



# Гадзіна пастою — 12 тысяч

**У бліжэйшы час у Мінску павінны з'явіцца яшчэ некалькі платных кароткатэрміновых стаянак для легкавых аўтамабіляў.**

У прыватнасці, на Кастрычніцкай плошчы платная стаянка пачала працаваць з мінулай серады. Нядаўна плошча была выбрукаваная каляровай пліткай, але не толькі для прыгажосці: гэта адначасова разметка для заездаў на стаянку і для паркоўкі, паведаміў Юрый Субоцін, намеснік кіраўніка трэста «Гардармеханізацыя». Няма прычын хваляваца, што плітка пачарнее ад гумовых колаў, бо *«па плошчы ніхто не будзе лётаць, як угарэлы, а потым цісцуць на тармазы»*.

Стаянка будзе працаваць да 20 гадзін, таму аўтамабілісты не створаць перашкод для дыскатэк, якія, па звестках Мінгарвыканкама, будуць рэгулярна праводзіцца тут у выходныя дні.

Як сказаў Ю.Субоцін, плануецца таксама арганізаваць месцы для платнай паркоўкі на плошчы Свабоды, у раёне Чэрвеньскага рынка, каля магазіна «Беларусь» і ў некаторых іншых месцах.

Але застануцца ў Мінску і месцы, дзе можна будзе паставіць машыну бясплатна, кажа Ю.Субоцін. Так што кожны будзе мець выбар: ці плаціць грошы і ставіць аўто каля, напрыклад, Камароўкі, ці бясплатна пакінуць машыну за некалькі кварталаў, скажам, на вул.Чырвонай.

А плаціць трэба вялікія грошы: калі вашае аўто прастаіць менш як 20 хвілін, гэта будзе каштаваць 6 тысяч рублёў. Калі даўжэй, то плату возьмуць, як за цэлую гадзіну: тарыф — 12 тысяч рублёў. Такім чынам, калі нехта прыедзе на працу на аўто і паставіць яго на платную стаянку, то за 8-гадзінны працоўны дзень «набяжыць» ажно 96 тысяч! Далёка не кожны столькі ў дзень зарабляе.

У трэсце «Гардармеханізацыя» падлічылі, што 12 паркінгаў, якія дзейнічаюць на сённяшні дзень у Мінску, кожны месяц прыносяць у бюджэт 600—700 млн. рублёў. Па словах намесніка начальніка ўчастка платных парковах Аляксандра Чачоры, усе атрыманыя грошы ідуць на добраўпарадкаванне і капітальны рамонт мінскіх вуліц.

**Аляксандр ШКУЦЬКО**

© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 34.650
Нумар падпісаны ў друк 28.07.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 333